ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 90 — 91 (5272 — 5273)
Субота, 11 жніўня 2001 года

Кошт у розніцу — 160 руб.



*Мінскі дзяржаўны політэхнічны каледж мае багаты вопыт і традыцыі (працуе з 1928 года), таму колькасць жадаючых паступіць у гэтую навучальную ўстанову з кожным годам павялічваецца.*



Абітурыент-2001

# “У моладзі змяніліся погляды на адукацыю”

Згодна з высокімі патрабаваннямі прадпрыемстваў да спецыялістаў была зменена спецыфіка іх падрыхтоўкі ў тэхнікуме, удасканалена матэрыяльная база, перапрацаваны вучэбныя планы. Міністэрства адукацыі пацвердзіла гатоўнасць політэхнічнага тэхнікума стаць каледжам. У выніку 1 верасня 2000 года ў краіне з’явіўся Мінскі дзяржаўны політэхнічны каледж.

Сёлета ў каледжы, з улікам патрабаванняў прадпрыемстваў, быў аб’яўлены набор абітурыентаў па сямі спецыяльнасцях на аснове базавай адукацыі, агульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай. На аснове базавай адукацыі абітурыенты маюць магчымасць паступаць на дзве спецыяльнасці: “Тэхналогія, абсталяванне і аўтаматызацыя машынабудавання” і “Аўтаматызацыя тэхналагічных працэсаў і вытворчасці”. Вялікую зацікаўленасць абітурыенты праявілі як да адной, так і да другой спецыяльнасці, конкурс на якія дасягае амаль пяці чалавек на месца. Сваімі думкамі на гэты конт падзяліўся кіраўнік Мінскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа Іван Сяргеевіч Рахлей:

*— Сёлета конкурс на спецыяльнасці на базе дзевяці класаў як ніколі высокі. Сваю ролю адыграў і дэмаграфічны фактар, але, на мой погляд, у моладзі змяніліся погляды на адукацыю. Каб нечым займацца прафесійна, неабходна быць адукаваным чалавекам. Калі ў мінулыя гады конкурс складаў 1,3-1,5 чалавека на месца, то ў гэтым — амаль пяць. Прадпрыемствы нашай краіны пачынаюць аднаўляцца, таму ўзрастае попыт на спецыялістаў тэхнічнага профілю.*

Абітурыентам - выпускнікам сярэдніх школ прапануецца шэсць спецыяльнасцей: “Электратэхніка”, “Гарадскі электрычны транспарт”, “Аўтаматызаваны электрапрывад”, “Метралогія, стандартызацыя і сертыфікацыя”, “Дакументазнаўства і дакументацыйнае забеспячэнне кіравання”, “Маркетынг”. Сёлета папулярнасцю карыстаецца спецыяльнасць “Дакументазнаўства і дакументацыйнае забеспячэнне кіравання” (арганізатар справаводства, архівіст, сакратар-рэферэнт), конкурс на якую складае больш пяці чалавек на месца. Гэта тлумачыцца высокай падрыхтоўкай па такіх прадметах як машынапіс, замежныя мовы (англійская і нямецкая), камп’ютэр. Пры паступленні на гэтую спецыяльнасць здаюць два экзамены: гісторыя Беларусі і дыктоўка на рускай або беларускай мове. Здавалася б, што экзамены не цяжкія, але, па словах У.С.Рахлея, падрыхтоўка абітурыентаў слабая.

*— Мяне вельмі хвалюе падрыхтоўка абітурыентаў па гісторыі Беларусі, — гаворыць ён. — Мне даводзілася слухаць проста парадаксальныя адказы. Не ведаюць элементарных рэчаў. Напрыклад, дзе знаходзяцца скульптуры нашых славутых паэтаў Я.Коласа і Я.Купалы. Ды і дыктоўку на выдатна амаль ніхто не піша, хоць тэксты — школьнага ўзроўню. Толькі адзін медаліст з васьмі змог апраўдаць свой медаль. Гэта, безумоўна, засмучае.*

У 1998 годзе ў каледжы з’явілася новая спецыяльнасць “Маркетынг” са спецыялізацыяй “Маркетынг у машынабудаванні” (эканаміст па маркетынгу). Сёлета конкурс на гэтую спецыяльнасць складае два чалавекі на месца. Будучыя маркетолагі — людзі, якія будуць рабіць рэкламу прадпрыемству, пераважна машынабудаўнічага профілю.

Выпускнікі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў могуць быць залічаны толькі на адну спецыяльнасць — “Тэхналогія, абсталяванне і аўтаматызацыя машынабудавання”. Тэрмін навучання для іх скарочаны — 1 год 10 месяцаў, калі для астатніх — амаль 3 гады.

На ўсе спецыяльнасці, акрамя “Дакументазнаўства і дакументацыйнага забеспячэння кіравання”, абітурыенты здаюць матэматыку вусна і пішуць дыктоўку. Іх веды ацэньваюць выкладчыкі каледжа, політэхнічнай акадэміі, вядучыя спецыялісты прадпрыемстваў па шасцібальнай сістэме (2; 3; 3,5; 4; 4,5; 5). На 560 запланаваных месцаў ужо пададзена 1041 заява.

Выпускнікі каледжа, якія атрымліваюць дыплом з “адзнакай” або маюць агульную адзнаку ведаў “4" і ”5" і атрымліваюць накіраванне ад педагагічнага савета каледжа, залічваюцца ў Беларускую дзяржаўную політэхнічную акадэмію па субяседаванні на адпаведныя ці сумежныя спецыяльнасці. У гэтым годзе каледж выпусціў 500 спецыялістаў, з якіх 101 чалавек атрымаў накіраванне ў БДПА.

Сёння ўжо ў кожнай навучальнай установе існуе платнае навучанне. Політэхнічны каледж не выключэнне. У суадносінах з бюджэтнай формай навучання платная складае 30 працэнтаў. У мінулым навучальным годзе аплата была 33 тысячы рублёў у месяц.

Акрамя дзённай, у каледжы ёсць вячэрняя і завочная формы навучання. На вячэрнюю прыём дакументаў прадоўжаны да 15 верасня.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: у Мінскім дзяржаўным політэхнічным каледжы ідуць уступныя экзамены.

**Фота Таццяны ГАЦУРА.**





Л.Я.КІРЫЛЮК:

# “Конкурс у ССНУ пастаянна ўзрастае”

***Ліпеньскую спякоту змянілі халаднаватыя жнівеньскія дні. Але для абітурыентаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў краіны цяпер — самая гарачая пара: з першага жніўня тут пачаліся ўступныя экзамены.***

***З просьбай вызначыць асаблівасці сёлетняй прыёмнай кампаніі наш карэспандэнт звярнулася да намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі Леаніда Яўгенавіча КІРЫЛЮКА.***

— Сёлета конкурс у ССНУ больш высокі, чым летась. Дарэчы, такая тэндэнцыя апошніх пяці гадоў. Большасць абітурыентаў паступае цяпер на аснове базавай адукацыі — дзевяці класаў. Яны здаюць пісьмовыя экзамены па беларускай ці рускай мове і літаратуры ў форме дыктанта і па матэматыцы. У некаторых ССНУ, у залежнасці ад спецыяльнасці, трэба здаваць экзамены па гісторыі, біялогіі ці малюнку. Як і ў мінулым годзе, веды ацэньваюцца па шасцібальнай сістэме (3, 3,5; 4; 4,5; 5 балаў). Ёсць асобныя катэгорыі абітурыентаў, якія залічваюцца па-за ўмовамі агульнага конкурсу. Гэта дзеці-сіроты, інваліды першай і другой групы, інваліды з дзяцінства і іншыя. Сёлета, згодна з рашэннем дзяржаўнай камісіі па кантролю за ходам уступных экзаменаў у ВНУ і ССНУ, пісьмовыя экзамены па беларускай ці рускай мове і літаратуры праводзяцца ў загадзя вызначаныя дні.

**— Колькі заяў пададзена ў бягучым годзе ў ССНУ і які конкурс?**

— Канчатковых даных пакуль няма, бо заявы тых, хто паступае на базе 9 класаў, прымаліся да 31ліпеня, а для тых, хто паступае на базе 11 класаў, прыём дакументаў скончыўся толькі 7 жніўня. Але папярэднія вывады можна паспрабаваць зрабіць. Летась было пададзена 102600 заяў. У 51 навучальнай установе са 150 конкурс быў звыш 3 чалавек на месца. Сярод гэтых ССНУ — Гомельскі політэхнікум, Брэсцкі тэхнікум чыгуначнага транспарту, Мінскі энергетычны каледж і іншыя. Найбольшы конкурс быў у мінскіх дзяржаўных каледжах: архітэктурна-будаўнічым (7,8), вышэйшым радыёкаледжы (7,6), гандлёвым (6,6), тэхналагічным (5,6). Больш за ўсё заяў у мінулым годзе абітурыенты падалі на спецыяльнасці эканомікі, правазнаўства. Даволі папулярныя і зараз такія спецыяльнасці, як тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўтамабіляў. Вельмі вялікі конкурс летась быў у мінскіх сярэдніх спецыяльных навучальных установах, дзе ёсць спецыяльнасць бухгалтарскі ўлік (ад 8 да 14). Падобная карціна з паступленнем у ССНУ чакаецца і сёлета, але ж конкурс больш высокі, чым у мінулым годзе.

**— Якімі фактарамі, акрамя вышэйпералічаных, абумоўлены рост конкурсу?**

— Па-першае, у нашай краіне ажыццяўляецца рэгіянальны прынцып падрыхтоўкі спецыялістаў. Таму сёлета прыём у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы рэспублікі па большасці спецыяльнасцей ажыццяўляецца ў аб’ёме адной групы (каля 30 чалавек). Па-другое, прыкладна 20 працэнтаў абітурыентаў, што паступаюць на базе 9 класаў, скончылі дзесяць.

**— А ці ёсць ужо першыя вынікі?**

— У Мінскім вышэйшым радыётэхнічным каледжы пісьмовы экзамен па матэматыцы 162 з 240 абітурыентаў атрымалі нездавальняючую адзнаку. Але ж тут не трэба спяшацца з высновамі. Многія з тых, хто паступае пасля дзевяці класаў, разважаюць так: “Паступлю — добра, не — пайду ў дзесяты клас”, таму і рыхтуюцца не вельмі сур’ёзна. Галоўным жа крытэрыем пры паступленні з’ўляюцца веды. Навучэнцамі ССНУ становяцца тыя, у каго яны ёсць. Але хацелася б, каб узровень падрыхтоўкі быў лепшы.

**Гутарыла Вольга ЗАЙКІНА.**

**Сёння на 3 — 5 старонках “Настаўніцкай газеты” друкуем Канцэпцыю “Адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь на рубяжы стагоддзяў”, распрацаваную Міністэрствам адукацыі.**

Весткі з Крупскага раёна

## І памочнік, і дарадца

Валянціна Міхайлаўна Цаванёнак ужо не адзін год узначальвае Якімаўскую базавую школу, дзе добра наладжаны вучэбна-выхаваўчы працэс, дзе на высокі ўзровень пастаўлена метадычная работа з педагагічнымі кадрамі.

Валянціна Міхайлаўна — выдатны выкладчык беларускай мовы і літаратуры, спецыяліст вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі, вопытны кіраўнік, які карыстаецца заслужаным аўтарытэтам сярод дырэктарскага корпуса Крупшчыны. Як мовазнаўца Валянціна Цаванёнак даследуе праблему “Нетрадыцыйныя формы навучання школьнікаў у базавай школе”, як кіраўнік установы — праблему “Унутрышкольны кантроль у сістэме кіраўніцкай дзейнасці дырэктара школы”. Настаўніца гісторыі Якімоўскай школы А.В.Веялка называе Валянціну Міхайлаўну Цаванёнак “лепшым памочнікам і дарадцай”. Такой яе лічаць і вучні з Якімаўкі.

## Супрацоўнічаюць з ВНУ

Дырэктар сярэдняй школы № 2 Крупак А.М.Котаў — па сутнасці адзін з першых у рэспубліцы ініцыятараў увядзення дыферэнцыяванага навучання. Зараз у школе адкрыты класы ад БДПУ імя М.Танка, Мінскага лінгвістычнага універсітэта, Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. А нядаўна ў школе адкрыўся клас ад Маскоўскага кааператыўнага інстытута.

Штогод рыхтуе школа пераможцаў прадметных алімпіяд раённага, абласнога, рэспубліканскага рангу. Амаль 100 працэнтаў выпускнікоў сярэдняй школы № 2 паступаюць у ВНУ.

## Новы статус

На базе Восаўскай базавай школы (дырэктар У.П.Кухта) адкрыты дзіцячы сад. Зараз гэтая ўстанова атрымала статус “Школа — дзіцячы сад”. Пад адным дахам жывуць школьнікі і дашкольнікі. Пераемнасць у навучанні і выхаванні, сумесная метадычная вучоба выхавальнікаў дзіцячага сада і настаўнікаў пачатковых класаў — характэрныя для Восаўскай базавай школы-сада.

**Мікалай УЛАДЗІМІРАЎ.**

З канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры

# Выніковасць не прымусіла чакаць

***У размове з супрацоўнікамі сродкаў масавай інфармацыі (СМІ) у Нацыянальным прэс-цэнтры міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіль Стражаў адразу знайшоў агульную мову з журналісцкай аўдыторыяй.***

Гутарка ішла пра вынікі 2000-2001 навучальнага года. Васіль Іванавіч заўважыў, што вынікі мінулага навучальнага года — адчувальныя, як і вынікі адукацыйнай рэформы.

Сваю выснову Васіль Іванавіч праілюстраваў прыкладам з практыкі тэсціравання — эфектыўнай формы праверкі ведаў вучняў, студэнтаў, якая набывае ўсё большае і большае распаўсюджанне.

Так, для шырокай грамадскасці незаўважна прайшло тое, што амаль 34 тысячы вучняў згадзіліся замест экзамену пайсці на тэсціраванне аднаго з некалькіх прадметаў (матэматыкі, фізікі, беларускай і рускай моў і літаратуры), які цалкам замяняе і выпускны, і ўступны экзамены. Гэтым самым Васіль Іванавіч даў зразумець, што выніковасць тэсціравання (пасля пэўных захадаў) не прымусіла сябе чакаць.

Дарэчы, Васіль Іванавіч нагадаў, што прадметную дапамогу (напрацоўкамі па матэматыцы, фізіцы) аказалі беларускім педагогам іх калегі з Расіі. Гэта інфармацыя пераканала супрацоўнікаў СМІ ў непарыўным інтэграцыйным працэсе ў сферы адукацыі паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй.

Адметным вынікам мінулага навучальнага года з‘яўляецца тое, што 7 тысяч дзяцей скончылі пачатковую школу за тры гады. Яны будуць вучыцца ў новай дзесяцікласнай базавай школе. У гэтым напрамку рэформа ідзе шпаркімі тэмпамі.

Сёння 40 працэнтаў вучняў пачатковых класаў маюць магчымасць распачаць вывучэнне замежнай мовы. Карацей кажучы, стартавыя магчымасці для шасцігодкаў закладваюцца такія, якіх не маюць краіны, щто ўваходзяць у склад СНД.

Тыя ж самыя садкі сталі сапраўднай базай для працягу навучальна-выхаваўчага працэсу ў паўнавартаснай школе.

Як выявілася, мацуецца і базавая школа: у мінулым навучальным годзе 62 працэнты яе выпускнікоў пайшлі вучыцца ў старэйшыя класы сярэдняй школы.

Да месца будзе прывесці і такі факт. Беларускія школьнікі, удзельнікі міжнародных прадметных алімпіяд-спаборніцтваў, дзе ў мінулым навучальным годзе сапернічалі паміж сабою ажно 78 краін свету, заўсёды вярталіся з іх з узнагародамі. Яны былі ўдастоены 26 медалёў высокай вартасці.

— Адным словам, — праінфармаваў міністр, — школьнікі з Беларусі заўсёды знаходзяць сабе месца ў дзесятцы мацнейшых каманд свету.

Адметным, — падкрэсліў Васіль Іванавіч, — сталася тое, што не толькі захавана, але і пастаянна ўдасканальваецца сістэма школьнага харчавання. Цяжкасці іншы раз выклікаюць толькі фінансавыя праблемы.

Звяртае ўвагу адладжаны ў дзяржаве летні адпачынак дзяцей. Як правіла, асноўныя выдаткі на аплату пуцёвак у летнікі бярэ на сябе дзяржава. Толькі 10 працэнтаў іх кошту аплочваюць бацькі.

А колькі бацькі плоцяць за наведванне іх дзецьмі садкоў? 6,6 працэнта ад сярэдняй заработнай платы.

У другой частцы канферэнцыі міністру было зададзена шмат пытанняў. У прыватнасці яны тычыліся дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі ведаў вучняў, становішча каледжаў у складзе універсітэтаў, падрыхтоўкі выкладчыкаў замежных моў.

Наступная прэс-канферэнцыя будзе ў бліжэйшы час прысвечана ўступнай кампаніі ў ВНУ і сярэднія спецыяльныя ўстановы.

**Наш кар.**

Хаця пісьмо і не надрукавана

# Неаплочваемы адпачынак — толькі са згоды работніка

***У сваім лісце ў рэдакцыю выхавальніца Варапаеўскай школы-інтэрната М.Ізотава прасіла растлумачыць некаторыя палажэнні працоўнага заканадаўства, якія датычаць правоў і абавязкаў выхавальнікаў.***

Пісьмо было разгледжана начальнікам аддзела працы і заработнай платы Галоўнага ўпраўлення сацыяльна-эканамічнага развіцця Міністэрства адукацыі В.Д.Слуянавай. Яна патлумачыла наступнае:

“У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку налічэння стажу работы па спецыяльнасці (у галіне) і павышэння тарыфных ставак і акладаў работнікаў арганізацый, фінансуемых з бюджэту, за стаж работы па спецыяльнасці (у галіне), зацверджаным пастановай Міністэрства працы ад 12.01.2000 г. за № 4, выхавальнікі ўстаноў адукацыі з’яўляюцца педагагічнымі работнікамі.

На падставе тарыфна-кваліфікацыйнай характарыстыкі, зацверджанай пастановай Міністэрства працы ад 9 студзеня 1998 года за № 3, асноўным кірункам дзейнасці выхавальніка навучальнай установы з’яўляецца выкананне выхаваўчай работы з вучнямі. У канікулярны час выхавальнік займаецца планаваннем і абнаўленнем зместу і форм працы з вучнямі, падрыхтоўкай дыдактычнага і практычнага матэрыялу, вядзеннем дакументацыі, прыцягвае да работы з выхаванцамі бацькоў і прадстаўнікоў грамадскасці, прымае ўдзел у вывучэнні перадавога вопыту па арганізацыі выхаваўчай работы з дзецьмі, займаецца пытаннямі працаўладкавання вучняў-выхаванцаў, вывучэннем сямейных і побытавых умоў выхаванцаў і г.д.

У выпадку вытворчай неабходнасці кіраўнік мае права перавесці работніка на тэрмін да аднаго месяца на не абумоўленую працоўным дагаворам работу (па іншай прафесіі, спецыяльнасці, кваліфікацыі, пасадзе), а таксама на работу да іншага наймальніка, на ўмовах, прадугледжаных артыкулам 33 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Прадастаўленне адпачынку без захавання заработнай платы работнікам школ-інтэрнатаў у выпадку часовага прыпынення работ альбо часовага памяншэння іх аб’ёму магчымае толькі са згоды работнікаў у адпаведнасці з артыкулам 191 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Для выканання вучэбна-выхаваўчага працэсу выхавальнікі школ-інтэрнатаў працуюць у бесперапынным рэжыме ў адпаведнасці з зацверджаным графікам работы (зменнасці). Пры гэтым у графіку прадугледжваецца адзін выхадны дзень пры шасцідзённым рабочым тыдні. Калі выхадны дзень па графіку работы супадае з дзяржаўным святам ці святочным днём, выхадны дзень не пераносіцца і іншы дзень адпачынку не прадастаўляецца. Работа ў выхадны дзень, устаноўлены графікам работ, можа кампенсавацца (па згодзе паміж работнікам і наймальнікам) прадастаўленнем іншага дня адпачынку ці павышанай аплатай не ніжэй, чым у двайным памеры. Пры гэтым для работнікаў, якія атрымліваюць месячны аклад, аплата робіцца ў памеры не ніжэй адзінарнай гадзіннай альбо дзённай стаўкі звыш акладу, калі работа выконвалася ў межах месячнай нормы працоўнага часу (падстава: артыкулы 69, 136-148 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь).

*Наступны нумар “Настаўніцкай газеты” выйдзе ў свет 16 жніўня 2001 года.*

# Адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь на рубяжы стагоддзяў

## (Распрацавана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь)

**3-4 кастрычніка 1997 года ў г. Мінску адбыўся Першы з'езд настаўнікаў Рэспублікі Беларусь, які падтрымаў рэформу агульнаадукацыйнай школы і асноўныя палажэнні стратэгіі развіцця сістэмы адукацыі, сфармуляваныя ў выступленні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі на з'ездзе.**

**У 2002 годзе пачынаецца новы важны этап рэформы: пераход базавай школы на 10-гадовы тэрмін абавязковага навучання. Асноўныя напрамкі яго рэалізацыі вызначыць Другі з'езд настаўнікаў рэспублікі ў лістападзе 2001 года. Але гэты з'езд будзе прысвечаны не толькі вырашэнню задач па пераходзе да 10-гадовай абавязковай школьнай адукацыі. З'езд праходзіць на рубяжы стагоддзяў, і натуральна, што адным з важнейшых яго прыярытэтаў стане асэнсаванне вынікаў работы сістэмы адукацыі за мінулае дзесяцігоддзе, абмеркаванне стратэгіі яе развіцця ў першым дзесяцігоддзі XXI стагоддзя, паколькі ў працэс рэфармавання ўключаюцца ўсе ўзроўні сістэмы адукацыі.**

**Рэфармаванне нацыянальнай сістэмы адукацыі адбываецца ў адзін з важнейшых перыядаў развіцця беларускай дзяржаўнасці. Мінулае дзесяцігоддзе - час набыцця рэспублікай суверэнітэту, пошуку шляхоў вырашэння сацыяльна-эканамічных праблем, вызначэння курса на стварэнне сацыяльна-арыентаванай дзяржавы. І зроблены выбар дазволіў пазбегнуць многіх памылак, характэрных для дзяржаў на постсавецкай прасторы, забяспечыў стабільнае функцыянаванне сістэмы адукацыі, пабудаваў стратэгічную лінію яе развіцця.**

**Беларусь уступіла ў XXI стагоддзе з развітай сістэмай адукацыі, асновы якой былі закладзены ў савецкі перыяд. Такія дасягненні савецкай школы як даступнасць усіх ступеняў адукацыі, адказнасць дзяржавы за адукацыю сталі базавымі прынцыпамі развіцця нацыянальных сістэм адукацыі большасці дзяржаў. Аб'яднанне намаганняў у рамках дзяржавы дазволіла забяспечыць увядзенне ўсеагульнай сярэдняй адукацыі, даступнасць і бясплатнасць прафесійна-тэхнічнай адукацыі, масавую падрыхтоўку спецыялістаў з сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыяй. Высокія патрабаванні да зместу адукацыі, кваліфікацыі педагагічных кадраў забяспечылі якасную падрыхтоўку на ўсіх узроўнях адукацыі.**

**У той жа час новыя рэаліі ставяць грамадства і дзяржаву перад неабходнасцю рэфармавання сістэмы адукацыі. Ніколі яшчэ чалавецтва не зведвала такіх бурных тэмпаў росту, як у апошняе дзесяцігоддзе. Бурны рост ведаў (а па ацэнцы шэрагу вучоных, на падваенне аб'ёму ведаў праз дзесяць гадоў спатрэбіцца месяцы) ахапіў усе сферы чалавечай дзейнасці. Працэсы глабалізацыі сціраюць сацыяльныя, культурныя і эканамічныя межы. Накладванне гэтых працэсаў выклікае эфект мультыплікацыі.**

**Пад уплывам нарастаючых тэмпаў змены ідэй, тыпаў мыслення, спосабаў жыццядзейнасці кардынальна змяняецца месца і роля адукацыі ў грамадстве. Яшчэ ў 1974 годзе ўдзельнікі пасяджэння "Рымскага клуба" прыйшлі да высновы, што XXI стагоддзе будзе стагоддзем адукацыі, а па прагнозах сацыёлагаў да сярэдзіны стагоддзя сфера адукацыі выйдзе на першае месца па колькасці занятых у ёй.**

**Усведамленне таго, што менавіта адукацыя стане лакаматывам прагрэсу грамадства і дзяржавы ў XXI стагоддзі, абумовіла праведзенне на рубяжы стагоддзяў шэрагу буйных міжнародных кангрэсаў, прысвечаных перспектывам развіцця адукацыі: 1997 год — Таронта (Канада) — сусветная канферэнцыя па праблемах узаемадзеяння інфармацыйнага грамадства і сістэмы адукацыі; 1998 год — Парыж (Францыя) — першая сусветная канферэнцыя па вышэйшай адукацыі; 1999 год — Сеул (Карэя) — другі сусветны кангрэс па прафесійна-тэхнічнай адукацыі; 2000 год — Дакар (Сенегал) — сусветная канферэнцыя па школьнай адукацыі.**

**Лейтматывам гэтых форумаў стала перакананне ў тым, што забеспячэнне ўстойлівага развіцця чалавечай супольнасці ў XXI стагоддзі можа быць дасягнута толькі пры ўмове забеспячэння роўнага доступу да адукацыі, рэалізацыі прынцыпу сацыяльнай справядлівасці ў атрыманні адукацыі, павышэння якасці адукацыі.**

**Менавіта гэтыя прынцыпы ляжаць у аснове дзяржаўнай палітыкі, што праводзіцца ў Рэспубліцы Беларусь у другой палове 90-х гадоў.**




### Забеспячэнне роўнага доступу да адукацыі

***Прынцып даступнасці з'яўляецца адным з вядучых прыярытэтаў сацыяльнай палітыкі дзяржавы ў галіне адукацыі.*** Важным крокам у рэалізацыі гэтага прынцыпу з'яўляецца стварэнне ўмоў для *масавага ахопу дзяцей дашкольнай адукацыяй і выхаваннем* — абавязковая перадумова рэалізацыі права на годную адукацыю.

Калі ў 1990 годзе ахоп дзяцей дашкольнымі ўстановамі складаў 67,6 працэнта (у тым ліку 51,1 працэнта на сяле), у 1994 — 58,5 працэнта (у тым ліку 35,8 працэнта на сяле), то да 2000 года колькасць дзяцей, якія іх наведваюць, дасягнула 70,8 працэнта (у тым ліку 46,1 працэнта на сяле), што з'яўляецца лепшым паказчыкам у СНД. Гэтае дасягненне забяспечана і за кошт *захавання даступнасці для бацькоў узроўню платы за ўтрыманне дзяцей у дашкольных установах.*

**У рэспубліцы практычна спынены працэс закрыцця дзіцячых дашкольных устаноў. Калі з 1990 па 1994 год іх колькасць скарацілася на 611 устаноў, то з 1994 па 2000 — на 239, што абумоўлена ўжо толькі дэмаграфічнай сітуацыяй.**

Плата за ўтрыманне дзяцей у дзіцячых садах складае менш як 30 працэнтаў ад затрат на харчаванне. Выдаткі на аплату за ўтрыманне ў дашкольных установах у адносінах да сярэднямесячнай заработнай платы работнікаў народнай гаспадаркі засталіся, улічваючы павышэнне якасці прадастаўляемых адукацыйных паслуг, на ранейшым узроўні (4,6 працэнта ад сярэднямесячнай заработнай платы ў 1990 годзе і 6,6 працэнта — у 2000 годзе). Сем'і, што пражываюць у зонах радыеактыўнага забруджання, вызвалены ад аплаты за ўтрыманне дзяцей у дзіцячых дашкольных установах. Гэтым правам карыстаюцца таксама сем'і, што пражываюць у сельскіх населеных пунктах, размешчаных у зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем.

Пераход агульнаадукацыйнай школы на навучанне дзяцей з 6-гадовага ўзросту прадугледжвае *поўны ахоп дзяцей 5-гадовага ўзросту падрыхтоўкай да школы.* Па стане на 1 верасня 2000 года ў рэспубліцы такой дашкольнай адукацыяй ахоплена 87,7 тыс. дзяцей 5-гадовага ўзросту, што складае 85,7 працэнта ад іх агульнай колькасці. Улічваючы дэмаграфічную сітуацыю, а таксама магчымасці дашкольных устаноў і агульнаадукацыйных школ (асабліва ў сельскай мясцовасці), дасягненне поўнага ахопу дзяцей 5-гадовага ўзросту падрыхтоўкай да школы на працягу бліжэйшых гадоў з'яўляецца рэальным. Гэта дазволіць *атрымліваць дзецям, незалежна ад узроўню даходаў іх бацькоў, роўныя стартавыя магчымасці пры паступленні ў школу.*

*Агульнаадукацыйная школа забяспечыла ўзросшы попыт на атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі.* Колькасць вучняў склала ў 1990-1991 навучальным годзе 1412 тыс. чалавек, а ў 2000-2001 — 1547 тыс. Але за гэтыя гады прыём у старшыя класы павялічыўся з 79407 (58 працэнтаў ад выпуску з базавай школы) да 93876 (61,8 працэнта ад выпуску з базавай школы).

*Павысіўся кадравы патэнцыял школы.* Агульная колькасць педагагічных работнікаў павялічылася з 127924 у 1990 годзе (140503 у 1994 годзе) да 148142 у 2000 годзе. А па такіх педагагічных спецыяльнасцях як "Англійская мова" і "Фізічная культура" — адпаведна з 5251 у 1994 годзе да 6760 у 2000 годзе (павелічэнне на 29 працэнтаў) і з 7228 да 7591 (на 5 працэнтаў). Дзякуючы гэтаму, пачынаючы з 1996 года, ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі забяспечана выкладанне ўсіх прадметаў вучэбнага плана.

**Размеркаванне педагагічных кадраў па ўзроўні адукацыі**

| | 1990-91 | 1992-93 | 1994-95 | 1996-97 | 1998-99 |
|---|---|---|---|---|---|
| Вышэйшая | 4528 | 4059 | 4587 | 3902 | 3886 |
| Сярэдняя спецыяльная | 18612 | 19959 | 22234 | 22811 | 24191 |
| Незакончаная вышэйшая | 3515 | 3108 | 2415 | 1501 | 1178 |
| Агульная сярэдняя | 101269 | 105275 | 111263 | 116020 | 119901 |

**Рэспубліка Беларусь — адзіная краіна Усходняй Еўропы і СНД, у якой забяспечана выкладанне ўсіх прадметаў вучэбнага плана ў кожнай школе.**

Паслядоўны пераход агульнаадукацыйнай школы на 12-гадовы тэрмін навучання пры пачатку навучання з шасцігадовага ўзросту ***стаў крокам у вырашэнні задачы пашырэння даступнасці і павышэння якасці адукацыі.*** У 1998 годзе ў школы ўсіх тыпаў прыйшлі 101,8 тыс. дзяцей шасцігадовага ўзросту (93 працэнты ад кантынгенту дзяцей гэтага ўзросту ў рэспубліцы), для якіх былі створаны лепшыя ўмовы для навучання, выхавання і ўтрымання ў параўнанні з савецкім часам. У 2000-2001 навучальным годзе ў падрыхтоўчых класах навучальных устаноў рэспублікі навучалася 94,3 тыс. дзяцей шасцігадовага ўзросту (95 працэнтаў). З іх 58 працэнтаў — на базе дашкольных устаноў (у гарадской мясцовасці — 76,8 працэнта) *пры захаванні ўмоў аплаты за іх утрыманне, як і раней у дашкольных установах.* Дзеці, якія займаюцца ў падрыхтоўчых класах на базе агульнаадукацыйнай школы, атрымліваюць бясплатныя абеды.

**На Беларусі створаны адны з лепшых у краінах Еўропы і СНД умовы для школьнага навучання і выхавання дзяцей 6-гадовага ўзросту.**

***Пашырылася сетка навучальных устаноў новага тыпу, якія забяспечваюць атрыманне адукацыі паглыбленага ўзроўню.*** Калі ў 1990 годзе ў рэспубліцы функцыянавалі 12 гімназій (5527 вучняў) і 5 ліцэяў (1997 вучняў), то ў 2000 годзе — 86 гімназій (78213 вучняў), 24 ліцэі (10433 вучні), 5 вучэбных комлексаў "школа (гімназія) — каледж" (1823 вучні).

**Суадносіны сярэдніх агульнаадукацыйных школ і навучальных устаноў новага тыпу ў 2000 г.**




У рамках рэалізацыі праграмы "Замежныя мовы" ***ажыццяўляюцца мерапрыемствы па пашырэнні вывучэння замежнай мовы.*** У 1990 годзе толькі 12,1 працэнта вучняў пачыналі вывучэнне замежнай мовы ў пачатковай школе, у 1994 годзе — 22,5 працэнта, тады як у 2000 годзе доля такіх вучняў склала 37,9 працэнта.

**Колькасць вучняў пачатковых класаў, якія вывучаюць замежныя мовы (у працэнтах)**

| | | |
|---|---|---|
| Вывучаюць замежныя мовы | 191-92 | 12,10% |
| | 1992-93 | 16,20% |
| | 1993-94 | 20,30% |
| | 1994-95 | 22,50% |
| | 1995-96 | 26,20% |
| | 1996-97 | 29,80% |
| | 1997-98 | 33,10% |
| | 1998-99 | 34,50% |
| | 1999-2000 | 36,40% |
| | 2000-2001 | 37,90% |

**У параўнанні з 1990 годам кантынгент вучняў, якія вывучаюць замежную мову ў пачатковай школе, павялічыўся больш чым у тры разы.**

Нягледзячы на цяжкасці матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, зніжэнне заказаў на рабочыя кадры, сістэма прафесійна-тэхнічнай адукацыі працягвала развівацца. ***Колькасць навучальных устаноў прафтэхадукацыі ў параўнанні з 1990 годам практычна не скарацілася.*** Пачынаючы з другой паловы 90-х гадоў ***намецілася павелічэнне прыёму ў ПТНУ*** (з 55,2 тыс. чал. у 1995 годзе да 60,9 тыс. чал. у 2000 годзе).

***Захаваны сацыяльныя льготы для навучэнцаў*** (бясплатнае харчаванне і г.д.). Павысілася вучэбная мабільнасць прафтэхадукацыі: штогод у навучальных установах уводзіцца падрыхтоўка па 20-30 інтэграваных прафесіях. Ажыццяўляецца паслядоўны пераход на шыракапрофільную падрыхтоўку рабочых: 77 працэнтаў прафесій з больш чым 350, па якіх цяпер вядзецца падрыхтоўка навучэнцаў у ПТНУ, інтэграваныя і сумешчаныя. Каля 70 працэнтаў выпускнікоў за перыяд навучання атрымліваюць дзве і больш кваліфікацыі.

Сістэма ***прафесійна-тэхнічнай адукацыі забяспечвае атрыманне*** не толькі прафесіі, але і ***агульнай сярэдняй адукацыі.*** Ва ўстановах прафесійна-тэхнічнай адукацыі не атрымліваюць агульнай сярэдняй адукацыі ўсяго толькі 5 працэнтаў навучэнцаў, якія вучацца на аснове базавай адукацыі. Больш як 1,5 тыс. навучэнцаў атрымліваюць агульнаадукацыйную падрыхтоўку па профільных прадметах на павышаным узроўні ў ліцэйскіх групах. Каля 3 тыс. навучэнцаў прадаўжаюць навучанне ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах па інтэграваных праграмах у скарочаныя тэрміны. Пачалося пераўтварэнне лепшых ПТВ і ВПВ у ***прафесійныя ліцэі і прафесійна-тэхнічныя каледжы.***

**10 працэнтаў выпускнікоў ПТНУ прадаўжаюць навучанне з мэтай атрымання сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі.**

***Захавана сетка навучальных устаноў сістэмы сярэдняй спецыяльнай адукацыі (147 ССНУ ў 1990 годзе, 145 — у 1994 годзе і 150 — у 2000 годзе). Павысілася цікавасць да сярэдняй спецыяльнай адукацыі выпускнікоў сярэдняй школы.*** Калі ў 1994 годзе кантынгент навучэнцаў ССНУ, якія мелі агульную сярэднюю адукацыю, складаў 56,9 працэнта, то ў 2000 годзе ён павялічыўся на 66,3 працэнта. У выніку агульны кантынгент навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў дасягнуў 144,8 тыс., перавысіўшы ўзровень 1990 года. ***Шэраг тэхнікумаў і вучылішчаў пераўтвораны ў каледжы і вышэйшыя каледжы.***

**На 10 тысяч насельніцтва на Беларусі прыходзяцца 282 студэнты, што сёння з'яўляецца найвышэйшым паказчыкам у гісторыі Беларусі. Яго можна супаставіць з паказчыкамі эканамічна найбольш развітых краін Еўропы, характэрнымі для пераходу да масавай вышэйшай адукацыі.**

Найбольш шпаркімі тэмпамі развівалася ***вышэйшая школа.*** Кантынгент студэнтаў дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў павялічыўся са 173,8 тыс. чалавек у 1994 годзе да 245,1 тыс. у 2000 годзе, а з улікам навучальных устаноў з пазабюджэтнымі крыніцамі фінансавання — да 281,7 тыс. чалавек (павелічэнне на 162 працэнты).

Колькасць ВНУ за дзесяцігоддзе павялічылася з 33 да 43 (на 30 працэнтаў), а з улікам вышэйшых навучальных устаноў з пазабюджэтнымі крыніцамі фінансавання — да 55 (на 70 працэнтаў).

**Рост колькасці вышэйшых навучальнах устаноў у Рэспубліцы Беларусь**

| Гады | Колькасць ВНУ |
|---|---|
| 1990 | 33 |
| 2000 | 55 |

Хуткае павелічэнне кантынгенту студэнтаў ВНУ суправаджаецца павелічэннем колькасці высокакваліфікаваных навукова-педагагічных работнікаў. Калі ў 1990 годзе ў сістэме вышэйшай адукацыі працавалі 15260 штатных выкладчыкаў, у тым ліку 618 прафесараў, 610 дактароў навук, 7341 кандыдатаў навук, 5077 дацэнтаў, то ў 2000 годзе штатны прафесарска-выкладчыцкі персанал склаў 20086 чалавек. У ВНУ рэспублікі сёння працуюць 1119 дактароў і 7681 кандыдат навук, з іх вучонае званне прафесара маюць 1106 чалавек, дацэнта — 5902 чалавекі.

У ВНУ рэспублікі распачата работа па ***ўкараненні дыстанцыйнага навучання***, што дазволіць пашырыць магчымасці ў атрыманні адукацыі значнай часткі насельніцтва (у першую чаргу дарослага).

Развіццё сістэмы прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі робіць рэальнай задачу забеспячэння ў бліжэйшыя 5 гадоў **магчымасці кожнаму выпускніку базавай і сярэдняй агульнаадукацыйнай школы прадоўжыць адукацыю ў прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай або вышэйшай навучальнай установе.**

**Увод у эксплуатацыю і прыняцце на баланс аб'ектаў па сістэме адукацыі Рэспублікі Беларусь (1995 — 2001 гады)**

| | Адзінка вымярэння | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 | 1999 | 2000 | 2001 план |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Дашкольныя ўстановы,** | адз. | 8 | 6 | 6 | 12 | 6 | 2 | 4 |
| у тым ліку вучнёўскіх месц | тыс. | 1,8 | 1,3 | 164 | 2,04 | 0,76 | 1,56 | 1,02 |
| **Агульнаадукацыйныя школы,** | адз. | 20 | 27 | 34 | 25 | 23 | 11 | 17 |
| у тым ліку вучнёўскіх месц | тыс. | 7,8 | 9,3 | 1462 | 8,8 | 10,5 | 3,7 | 8,84 |
| **Вышэйшыя навучальныя ўстановы** *вучэбна-лабараторныя карпусы:* тым ліку | тыс.кв.м. | 1,0 | 5,86 | 15,56 | 47,15 | 43,33 | 23,27 | 31,98 |
| - пабудавана | | | | 1,6 | 12,89 | 5,86 | 12,83 | 2,25 |
| - прынята ад іншых арганізацый і ведамстваў | | 1,0 | 5,86 | 13,96 | 34,26 | 37,65 | 10,44 | 29,73 |
| *інтэрнаты:* | тыс.кв.м. | | | 20,93 | 22,67 | 20,13 | 2,29 | 11,37 |
| - пабудавана | | | | 11,1 | 21,32 | 16,93 | - | 6.46 |
| прынята ад іншых арганізацый і ведамстваў | | | | 9:83 | 1,35 | 3,2 | 2,29 | 4,91 |

***Падрыхтоўка навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі*** ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца ў аспірантуры і дактарантуры вышэйшых навучальных устаноў і навуковых арганізацый.

**З 1995 года колькасць аспірантаў павялічылася больш чым на 55 працэнтаў.**

Сёння ў 37 вышэйшых навучальных установах і 68 навуковых арганізацыях вучацца 4799 аспірантаў і 128 дактарантаў. У мэтах арганізацыі навуковых даследаванняў, што праводзяцца студэнтамі і аспірантамі, ВНУ мэтанакіравана выдзяляецца частка бюджэтных сродкаў на фундаментальныя даследаванні. Штогод абвяшчаецца конкурс на навукова-даследчыя працы студэнтаў, аспірантаў, дактарантаў, якія выконваюцца па грантах (75-100 грантаў у год).

### Забеспячэнне сацыяльнай справядлівасці пры атрыманні адукацыі

Важнай умовай пабудовы дзяржавы з сацыяльна-арыентаванай рынкавай эканомікай з'яўляецца забеспячэнне сацыяльнай справядлівасці пры атрыманні адукацыі. ***Асаблівая ўвага ў нашай рэспубліцы ўдзяляецца пры гэтым насельніцтву сельскіх рэгіёнаў, а таксама тэрыторый, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.***

**У сельскіх школах вучацца 26,1 працэнта вучняў.**

З мэтай забеспячэння якаснай адукацыі для сельскай моладзі ***ствараюцца ліцэйскія і гімназічныя класы ў сельскіх агульнаадукацыйных школах, ліцэі і гімназіі ў сельскай мясцовасці і пры вядучых навучальных установах.*** На вырашэнне гэтай задачы накіравана і ***развіццё мэтавага прыёму ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.*** Пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, пачынаючы з 1998 года, праводзіцца раздзельны конкурс сярод выпускнікоў гарадскіх і сельскіх школ.

Важным крокам у павышэнні якасці адукацыі на сяле з'яўляецца ***ўдасканаленне структуры і рацыяналізацыя сеткі навучальных устаноў, размешчаных у сельскай мясцовасці*** (аб'яднанне дзіцячых садоў і школ, стварэнне ў раённых цэнтрах і буйных населеных пунктах ліцэяў і гімназій).

Вялікая ўвага ўдзяляецца таксама ***забеспячэнню правоў на агульную і прафесійную адукацыю інвалідаў і асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.***

**У рэспубліцы 113612 дзяцей-інвалідаў і асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.**

З 1995 года атрымалі развіццё розныя формы сумеснага навучання і выхавання дзяцей з асаблівасцямі развіцця і іх здаровых равеснікаў. Адкрыццё інтэграваных класаў на базе агульнаадукацыйных школ стала прынцыпова новым падыходам у рэалізацыі права кожнага дзіцяці на атрыманне адукацыі па месцы жыхарства.

З 1998 года ў рэспубліцы атрымала шырокае развіццё стварэнне цэнтраў карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, якія забяспечваюць атрыманне педагагічнай дапамогі і аказанне неабходных дадатковых паслуг дзецям з парушэннямі развіцця. Сёння ў рэспубліцы функцыянуюць 79 такіх цэнтраў. На базе гэтых устаноў адкрыты класы, у якіх вучацца 904 дзіцяці з цяжкімі парушэннямі развіцця, якія раней лічыліся "ненавучаемымі".

***У сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі вучацца*** 1388 інвалідаў і асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця (у 1994 годзе — 546). Прыём інвалідаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы павялічыўся з 42 чалавек у 1993 годзе да 399 у 2000 годзе.

**У 2000 годзе выдадзены першы ў гісторыі Беларусі буквар для сляпых дзяцей, першыя вучэбныя дапаможнікі атрымалі дзеці з цяжкай разумовай недастатковасцю.**

***З 1996 года ў рэспубліцы пачалося выданне нацыянальных падручнікаў для дзяцей з рознымі парушэннямі.*** Асвоены выпуск падручнікаў шрыфтам Брайля для сляпых дзяцей, пачалося выданне вучэбнай літаратуры павялічаным шрыфтам для дзяцей з цяжкімі парушэннямі зроку. Усяго за гэты час школы для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця атрымалі каля 230 айчынных дапаможнікаў і 94 праграмы, 37 вучэбна-метадычных дапаможнікаў для арганізацыі работы з названай катэгорыяй дзяцей.

Пачынаючы з 2001 года не бярэцца плата за карыстанне падручнікамі з бацькоў або асоб, што іх замяшчаюць, дзеці якіх вучацца ў спецыяльных агульнаадукацыйных школах-інтэрнатах, школах, класах, класах інтэграванага навучання, санаторных школах-інтэрнатах.

З 1998 года ажыццяўляецца ***дзяржаўная падтрымка па зніжэнні кошту харчавання школьнікаў*** з разліку 4 працэнты ад мінімальнай заработнай платы ў вучэбны дзень на аднаго вучня, які не атрымлівае харчавання (поўнасцю або часткова) за кошт сродкаў бюджэту. Мясцовым адміністрацыям, выканкамам гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў, міністэрствам прадастаўлена права ў межах сродкаў, накіраваных на зніжэнне кошту харчавання школьнікаў, поўнасцю або часткова вызваляць ад платы за харчаванне вучняў з малазабяспечаных сем'яў, а таксама іншых школьнікаў, якія маюць у гэтым патрэбу. У выніку ахоп школьнікаў гарачым харчаваннем з 1998 па 2000 г. павялічыўся з 62,6 да 97,5 працэнта.

Больш як 262 тыс. вучняў школ і навучэнцаў ПТВ, размешчаных у забруджаных радыёнуклідамі раёнах, забяспечаны бясплатным харчаваннем за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

Захавана 3-4-разовае харчаванне дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і дзяцей, якія вучацца ва ўстановах сістэмы спецыяльнай адукацыі. ***З 2000 г. уведзена двухразовае бясплатнае харчаванне дзяцей-інвалідаў***, што вучацца ў цэнтрах карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі.

***Дзяржавай аднаўлена сістэма аздараўлення школьнікаў***, што садзейнічала павышэнню ролі дзяржаўных структур і органаў выканаўчай улады ў правядзенні аздараўленчых мерапрыемстваў і выдзяленню датацый са сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання на іх фінансаванне.

У 2000 годзе пры выкарыстанні датацый са сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання ў аздараўленчых летніках усіх тыпаў прайшлі аздараўленне 684197 дзяцей, або 47,7 працэнта ад колькасці дзяцей школьнага ўзросту, што ў 1,7 раза больш у параўнанні з узроўнем 1997 года (399399). У летні перыяд 2000 года ў аздараўленчых летніках знаходзіліся 496647 дзяцей, што на 6 **тысяч** больш за планавыя заданні. 234286 чалавек, або 47 працэнтаў ад агульнай колькасці, прайшлі аздараўленне ў летніках дзённага знаходжання на базе вучэбна-выхаваўчых устаноў. У канікулярны перыяд навучальнага года аздароўлена 187550 тысяч чалавек.

У 2000 годзе аздараўленчыя летнікі працавалі на базе 4443 устаноў (у 1998 г. — 3753), з іх 916 — аздараўленчыя летнікі кругласутачнага знаходжання, 3527 (у 1999 г. — 3297) — аздараўленчыя летнікі дзённага знаходжання ва ўстановах адукацыі.

**Колькасць дзяцей, што прайшлі аздараўленне**

| | |
|---|---|
| 1997 г. | 399399 |
| 2000 г. | 684197 |

***Аздараўленне дзяцей разглядаецца як важная форма сацыяльнай падтрымкі сям'і.*** Бацькоўская даплата за пуцёўку захоўваецца на ўзроўні 10 працэнтаў яе кошту. Выдзяляюцца бясплатныя пуцёўкі ў аздараўленчыя летнікі, асабліва дзённага знаходжання, дзецям са шматдзетных і малазабяспечаных сем'яў, дзецям-сіротам і дзецям, пазбаўленым бацькоўскай апекі, якія знаходзяцца ў інтэрнацкіх установах і апякунскіх сем'ях.

Штогод павялічваецца наклад навукова-метадычных часопісаў па праблемах выхаваўчай і сацыяльнай работы.

Асабліва патрэбна выдзеліць работу па стварэнні сацыяльна-педагагічнай і псіхалагічнай службы сістэмы адукацыі. Для рэспублікі гэта зусім новы накірунак дзейнасці, які запатрабаваў арганізацыі падрыхтоўкі высокакваліфікаваных кадраў сацыяльных педагогаў і педагогаў-псіхолагаў, іх нарматыўна-прававога і метадычнага забеспячэння.

***У рэспубліцы не толькі захавана, але і атрымала развіццё сістэма пазашкольнай адукацыі,*** якая забяспечвае доступ дзяцей да розных галін творчай дзейнасці, стварае рэальныя магчымасці для іх духоўнага, інтэлектуальнага і фізічнага развіцця. У 1991 годзе ў 386 установах пазашкольнай адукацыі працавалі 19992 гурткі, у якіх займаліся 292250 вучняў. Сёння ў 377 установах пазашкольнай адукацыі працуе 25986 гурткоў, у якіх займаецца 352469 дзяцей.

За мінулы перыяд адбыўся шэраг станоўчых змен у галіне ***фізічнага выхавання вучняў.*** З 1996 года ў школах уведзены 3 урокі фізкультуры. Для павышэння цікавасці вучняў да рэгулярных фізкультурных заняткаў пазакласная работа пераарыентавана на круглагадовую спартакіяду з правядзеннем штомесячных фізкультурна-аздараўленчых мерапрыемстваў. Павялічылася колькасць спартыўных збудаванняў, спартыўных залаў.

Цяпер у сістэме Міністэрства адукацыі налічваецца 236 дзіцячых спартыўных школ, у якіх займаецца 118 тыс. вучняў. За 2000 год у іх падрыхтаваны 92 майстры спорту і 13 майстроў спорту міжнароднага класа. Каля 45 працэнтаў саставу нацыянальных каманд, якія прымаюць удзел у Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах Еўропы, фарміруецца выпускнікамі спартыўных школ. Ад 60 да 70 працэнтаў пераможцаў і прызёраў названых спаборніцтваў з'яўляюцца вучнямі раённых спартыўных школ.

У Алімпійскіх гульнях 1996 года прынялі ўдзел 33 чалавекі, што вучацца ў навучальных установах сістэмы Мінадукацыі, якія заваявалі 5 бронзавых медалёў. У Алімпійскіх гульнях 2000 года — 45 чалавек, якія заваявалі 1 залаты, 5 сярэбраных і 3 бронзавыя медалі.

**Развіццё сістэмы пазашкольнай адукацыі**

| | 1991 г. | 2000 г. |
|---|---|---|
| Колькасць гурткоў | 19992 | 292250 |
| Колькасць навучаючыхся | 25986 | 358558 |

## Павышэнне ролі адукацыі ў вырашэнні сацыяльна-эканамічных задач

***Прыярытэтная роля адукацыі найбольш ярка праяўляецца ў рэалізацыі функцыі забеспячэння грамадскага прагрэсу.***

Па даных апошняй справаздачы ААН аб чалавечым развіцці, Рэспубліка Беларусь у глабальным рэйтынгу ***па індэксе развіцця чалавечага патэнцыялу*** перамясцілася з 57 на 53 месца, працягваючы ўтрымліваць лідэрства сярод краін СНД.

Асноўным паказчыкам індэкса развіцця чалавечага патэнцыялу, разам з сярэдняй працягласцю жыцця і памерам унутранага валавога прадукту на душу насельніцтва, з'яўляецца ўзровень ахопу насельніцтва адукацыяй. Менавіта гэты паказчык істотна вызначае перспектывы развіцця дзяржавы, таму што адукацыя сёння становіцца важнейшым рэсурсам эканамічнага развіцця і павышэння якасці і ўзроўню жыцця.

**Даныя міжнародных арганізацый сведчаць: адрозненні паміж развітымі краінамі і краінамі, што сталі на шлях развіцця, толькі на адну трэць абумоўлены адрозненнем ва ўзроўнях развіцця эканамічных сістэм, а на дзве трэці — адрозненнем ва ўзроўні і якасці адукацыі.**

Гэта яшчэ раз падкрэслівае важнасць рэформы агульнаадукацыйнай школы і сістэмы адукацыі ўвогуле, накіраванай на павышэнне эфектыўнасці навучання і, у канчатковым выніку, на прырашчэнне інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі.

Сістэма адукацыі адыгрывае прыярытэтную ролю ў забеспячэнні кваліфікаванымі кадрамі ўсіх сфер жыццядзейнасці краіны.

Устойлівыя пазітыўныя тэндэнцыі адзначаюцца ў структуры падрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Колькасць спецыяльнасцей павялічылася ў 2000 годзе да 233, спецыялізацый — да 1070, што дазваляе практычна поўнасцю задавальняць патрэбнасці рэспублікі ў спецыялістах з вышэйшай адукацыяй.

У сістэме дзяржаўнай вышэйшай адукацыі інтэнсіўна павялічваецца падрыхтоўка спецыялістаў па наступных профілях:

эканамічным — з 22324 студэнтаў у 1990 годзе да 58938 у 2000 годзе (264 працэнты);

педагагічным — з 24989 студэнтаў у 1990 годзе да 50329 у 2000 годзе (201 працэнт);

гуманітарным — з 30066 студэнтаў у 1990 годзе да 39505 у 2000 годзе (131 працэнт).

Да 1997/1998 навучальнага года было спынена зніжэнне аб'ёмаў падрыхтоўкі, а ў 2000 годзе павялічыўся аб'ём падрыхтоўкі па ***вызначальных для эканомікі краіны накірунках.*** У адносінах да ўзроўню 1990 года:

тэхнічны профіль — да 91 працэнта (максімальнае падзенне да 70 працэнтаў);

сельскагаспадарчы профіль — да 77 працэнтаў (максімальнае падзенне да 68 працэнтаў);

медыцынскі профіль — да 74 працэнтаў (максімальнае падзенне да 66 працэнтаў);

прыродазнаўчанавуковы профіль — да 63 працэнтаў (максімальнае падзенне да 58 працэнтаў).

Праводзіцца работа па прывядзенні структуры падрыхтоўкі рабочых кадраў і спецыялістаў сярэдняга звяна ў адпаведнасць з патрабаваннямі рынку працы.

Сістэма адукацыі адыгрывае важную ролю ***ў забеспячэнні тэхналагічнага пераўзбраення краіны.*** У адпаведнасці з данымі ААН па асноўных паказчыках, якія ўлічваюцца пры разліку індэкса тэхналагічнага развіцця, Беларусь не саступае краінам-лідэрам. Рэспубліка, напрыклад, апярэджвае Канаду, Польшчу, Італію па колькасці валавога ўнутранага прадукту, які інвесціруецца ў развіццё навукі і тэхналогій. Колькасць навукова-тэхнічных работнікаў на Беларусі на 100 тыс. насельніцтва амаль у 1,7 раза вышэйшая, чым у Польшчы. Рэспубліка апярэджвае Польшчу і па колькасці студэнтаў ВНУ, якія навучаюцца па прыродазнаўчанавуковых і тэхнічных спецыяльнасцях (14,4 і 6,6 працэнта адпаведна).

**Ад шэрагу распрацовак вышэйшай школы атрыманы значны эканамічны эфект. Так, на аснове навуковых распрацовак вучоных Беларускага дзяржаўнага** універсітэта наладжана перапрацоўка лому і адходаў, якія ўтрымліваюць каштоўныя металы, з атрыманнем зліткаў каштоўных металаў высокай чысціні. Пры гэтым кошт выпушчанай у 2000 годзе прадукцыі склаў больш як 6 млн. долараў ЗША. На працягу 4 гадоў актыўна выступае на рынку навукова-тэхнічнай прадукцыі прадпрыемства "Унитехпром" БДУ, якое, выкарыстоўваючы высокарэнтабельныя тэхналагічныя працэсы, распрацаваныя ў БДУ, наладзіла выпуск некалькіх дзесяткаў найменняў прадукцыі медыцынскага прызначэння. Штогадовая эканомія дзяржбюджэтных сродкаў, дзякуючы пераходу на айчынныя віды прадукцыі, складае каля 3 млн. долараў ЗША.

У Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту распрацавана методыка дыягнаставання асноўных дэталяў грузавых вагонаў, якая сэканоміла Беларускай чыгунцы звыш 10 млн. долараў ЗША. Распрацаваныя ў БелДУТе варыянты мадэрнізацыі вагонаў-цыстэрн дазволяць штогод эканоміць да 1,5 млн. долараў ЗША.

У Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі распрацавана імпартазамяшчальная тэхналогія атрымання высокатрывалага чыгуну з выкарыстаннем металаадходаў, якая дазваляе павысіць трываласць металу на 25-30 працэнтаў.

**За распрацоўку і прамысловае асваенне новых тэхналогій і стварэнне канкурэнтаздольнай імпартазамяняльнай прадукцыі вучоныя БДУІР удастоены пяці Дзяржаўных прэмій і адной Урадавай прэміі.**

Навукова-даследчым цэнтрам валаконна-аптычнай тэхнікі пры Магілёўскім машынабудаўнічым інстытуце распрацавана і вырабляецца серыя валаконна-аптычных эндаскопаў, прызначаных для тэхнічнай дыягностыкі цяжкадаступных месц машын, агрэгатаў, станкоў у авія-, машына-, аўтамабіле-, суднабудаванні, электра- і ядзернай энергетыцы, хіміі, нафтавай і газавай прамысловасці, будаўніцтве, а таксама ў медыцынскай дыягностыцы.

Шырокую вядомасць набылі даследаванні, якія выконваюцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Шэраг праектаў у галіне мікра- і наноэлектронік, новых матэрыялаў і інфармацыйных тэхналогій выконваецца ў рамках еўрапейскіх праграм INTAS, ESPRIT, COPERNICUS, па грантах міжнародных навуковых таварыстваў і фондаў. Вялікім попытам на рынку высокіх тэхналогій Кітая, Індыі, Германіі, Італіі карыстаюцца распрацоўкі ў галіне СВЧ-электронікі, радыёлакацыі, электрамагнітнай сумяшчальнасці, мадэлявання радыёэлектронных сістэм, мікраэлектронікі.

У гэтым універсітэце распрацаваны вымяральна-вылічальны комплекс ("Лукомль-2001"), які дазваляе весці бесперапынны стацыянарны вібракантроль турбаагрэгатаў магутнасцю ад 25 да 300 мвт. Цяпер комплекс укаранёны на 6 буйных электрастанцыях канцэрна "Белэнерга". Ажыццяўляецца пастаўка комплексаў у Расію.

Айчынных спажыўцоў прываблiваюць распрацаваныя навукоўцамі БДУІР радыёпаглынальныя матэрыялы на аснове трыкатажных палотнаў, прылады абароны моўнай інфармацыі, рэсурсазберагальныя хладонавыя сістэмы ахаладжэння тэхналагічных вадкасцей, праграмныя і тэхнічныя сродкі аналізу і прагнозу электрамагнітнай сумяшчальнасці радыёэлектронных сродкаў.

## Перспектывы развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі

Распрацоўка стратэгіі развіцця сістэмы адукацыі з***апатрабавала ўзмацненне ролі прагнастычнай і праграмна-мэтавай функцый у кіраванні.*** Былі створаны, пачынаючы з 1996 года, канцэпцыі рэфармавання агульнаадукацыйнай школы, развіцця вышэйшай і прафесійна-тэхнічнай адукацыі, якія засноўваюцца на прынцыпах апоры на айчынныя педагагічныя традыцыі, уважлівага адбору інавацыйных рашэнняў, эвалюцыйнасці ў правядзенні пераўтварэнняў.

Выбар стратэгіі развіцця сярэдняй і вышэйшай школы дазволіў вызначыць параметры рэфармавання ўсіх узроўняў адукацыі і на гэтай аснове распрацаваць ***"Асноўныя напрамкі развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі", якія вызначылі мэты, асноўныя этапы і мерапрыемствы па развіцці ўсіх кампанентаў сістэмы адукацыі.***

У рамках рэалізацыі "Асноўных напрамкаў" да пачатку 2001 года ажыццёўлена распрацоўка канцэптуальна-праграмных дакументаў практычна ўсіх звенняў сістэмы адукацыі. Адначасова ажыццяўлялася работа па ***стварэнні нарматыўнай прававой базы сістэмы адукацыі.*** Распрацаваны і разгледжаны ў першым чытанні ў парламенце праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Вядзецца распрацоўка законапраектаў аб вышэйшай, прафесійна-тэхнічнай і спецыяльнай адукацыі, аб вучэбным кнігавыданні.

***У адпаведнасці з зацверджанымі праграмнымі дакументамі ў перыяд да 2010 года прадугледжваецца правядзенне наступных мерапрыемстваў.***

***У сістэме дашкольнай адукацыі:***

— забеспячэнне паступовага пераходу да поўнага ахопу дзяцей пяцігадовага ўзросту падрыхтоўкай да школы, што дазволіць прадаставіць дзецям, незалежна ад сацыяльнага становішча іх бацькоў, роўныя стартавыя магчымасці пры паступленні ў школу;

— далейшае развіццё дзяржаўнай сеткі дашкольных устаноў. Асаблівая ўвага пры гэтым будзе ўдзяляцца развіццю дашкольнай адукацыі на сяле, стварэнню ўстаноў тыпу дзіцячы сад-школа, сезонныя пляцоўкі, дзіцячы сад на даму.

Будзе праводзіцца ў адпаведнасці з запытамі сям'і далейшая дыферэнцыяцыя сеткі дашкольных адукацыйных устаноў, увядзенне розных форм дашкольнага выхавання, а таксама стварэнне ўмоў для забеспячэння пераемнасці сямейнага выхавання, дашкольнай і пачатковай адукацыі.

***У сістэме школьнай адукацыі*** да 2008 года будзе завершаны пераход да абавязковай дзесяцігадовай адукацыі пры 4-гадовай пачатковай і 6-гадовай базавай школе, а да 2010 года — 12-гадовай поўнай сярэдняй адукацыі.

Выпускнікі абавязковай дзесяцігадовай школы змогуць без абмежаванняў прадоўжыць вучобу на апошняй ступені агульнаадукацыйнай школ — у ліцэйскіх класах сярэдніх агульнаадукацыйных школах, ліцэях, у тым ліку пры вышэйшых навучальных установах, на базе прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў (прафесійных ліцэях і прафесійна-тэхнічных каледжах), а таксама ў тэхнікумах і каледжах, дзе таксама можна будзе завяршыць агульнаадукацыйную падрыхтоўку. Любы з гэтых варыянтаў будзе даваць права на прадаўжэнне вучобы ў вышэйшай навучальнай установе.

**Увядзенне новай структуры і зместу агульнай сярэдняй адукацыі, развіццё сістэмы сацыяльнай падтрымкі навучэнскай моладзі створаць аптымальныя ўмовы для маральнага, інтэлектуальнага, творчага і фізічнага развіцця асобы, замацуюць за агульнаадукацыйнай школай статус вядучага сацыяльнага інстытута.**

Удасканаленне адукацыйнага працэсу будзе ажыццяўляцца за кошт пашырэння культуралагічнай, эканамічнай, экалагічнай падрыхтоўкі, укаранення сучасных тэхналогій навучання, надання зместу адукацыі на ўзроўні базавай (асноўнай) школы адносна завершанага характару і ажыццяўлення профільнай дыферэнцыяцыі на апошнім этапе агульнай сярэдняй адукацыі.

Пераход на 5-дзённы вучэбны тыдзень дазволіць устанавіць навукова абгрунтаваную вучэбную нагрузку. Паэтапнае зніжэнне напаўняльнасці класаў створыць аптымальныя ўмовы для навучання і аховы здароўя вучняў.

Будзе забяспечвацца адзінства вучэбна-выхаваўчага працэсу ў сістэмах школьнай і пазашкольнай адукацыі. Прадоўжыцца работа па стварэнні комплекснай сістэмы выхаваўчай работы, арыентаванай на фарміраванне духоўна-маральнай асобы. У 2001/2005 гг. будзе праводзіцца работа па пашырэнні сеткі ўстаноў пазашкольнай адукацыі (комплексы пазашкольнай работы, цэнтры творчасці школьнікаў, турыстычныя клубы, дзіцячыя паркі і інш.) і пераліку аказваемых імі паслуг з улікам павелічэння патрэбнасцей і запытаў навучэнскай моладзі. Атрымае далейшае развіццё дзейнасць дзіцячых і маладзёжных арганізацый.

Прадоўжыцца фарміраванне сістэмы псіхолага-педагагічнай і сацыяльна-педагагічнай падтрымкі, завершана стварэнне сеткі спецыяльных устаноў для аказання дапамогі дзецям і сем'ям, якія аказаліся ў экстрэмальных сітуацыях, пашырана аказанне карэкцыйна-адукацыйных паслуг асобам з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

На працягу 2002-2005 гг. будуць прыняты дадатковыя меры па арганізацыі профільных аздараўленчых летнікаў, якія дазволяць улічваць інтарэсы, запыты і патрэбнасці ў аздараўленні розных катэгорый вучняў. Пашырыцца практыка аздараўлення дзяцей, пацярпелых ад катастрофы на ЧАЭС; з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця; дзяцей, якія стаяць на прафілактычным уліку ў інспекцыях па справах непаўналетніх.

Пераўтварэнні ў сферы ***прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай*** адукацыі дазволяць сфарміраваць адкрытую і гнуткую сістэму прафесійнага навучання, якая забяспечыць бясплатнае атрыманне прафесіі з улікам запытаў асобы і патрабаванняў рынку.

Атрымае развіццё сетка прафесійных ліцэяў і прафесійна-тэхнічных каледжаў, што забяспечыць інтэграцыю прафтэхадукацыі з рэфармуемымі агульнай сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Стварэнне новай сістэмы кваліфікацый і мадэляў прафесійнага навучання дазволіць павялічыць кантынгент навучэнцаў за кошт розных узроставых груп і катэгорый насельніцтва.

Удасканаленне сістэмы ***сярэдняй спецыяльнай адукацыі*** будзе накіравана на забеспячэнне інтэграцыі з вышэйшай і прафесійна-тэхнічнай адукацыяй, атрыманне выпускнікамі ССНУ вышэйшай адукацыі па скарочаных тэрмінах навучання. Прадугледжваецца далейшае развіццё сеткі вышэйшых каледжаў, а таксама развіццё сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў рамках вышэйшых навучальных устаноў.

Новая структура ***вышэйшай адукацыі*** атрымае замацаванне ў сістэме ступеняў вышэйшай адукацыі, уключаючы бакалаўрыят і магістратуру. Пры гэтым будзе захавана сістэма падрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Атрымаюць развіццё інтэнсіўныя метады навучання, сістэма рэйтынгавай ацэнкі і атэстацыі студэнтаў, заснаваныя на выкарыстанні інфармацыйных тэхналогій, дыстанцыйнае навучанне.

Пераход да 12-гадовай поўнай сярэдняй адукацыі створыць перадумовы да паступовага ажыццяўлення пераходу да двухступеньчатай вышэйшай адукацыі, дзе першая ступень, якая мае масавы характар, будзе мець чатырохгадовы тэрмін навучання на базе 12-гадовай школы ***(сёння 11 школьных плюс 5 гадоў вышэйшай школы, заўтра — 12 школьных плюс 4 гады вышэйшай школы).*** Гэты працэс знаходзіцца ў адпаведнасці з плануемым пераходам еўрапейскай вышэйшай школы да чатырохгадовай вышэйшай адукацыі да 2008-2010 гг., што ажыццяўляецца на базе 12-13-гадовай школы.

Улічваючы вялікі выпуск са школы ў 2001-2005 гг., плануецца павелічэнне прыёму ў ВНУ. Для сацыяльна значных галін прадугледжваецца развіццё кантрактнай формы падрыхтоўкі спецыялістаў.

Рэгіяналізацыя вышэйшай адукацыі дасць магчымасць задаволіць адукацыйныя запыты грамадзян, вырашыць задачы сацыяльнага і культурнага развіцця рэгіёнаў.

Інтэграцыя вышэйшай адукацыі з фундаментальнай і прыкладной навукай, стварэнне адзінай інфармацыйнай прасторы адукацыі і навукі забяспечаць далейшае развіццё навукова-даследчай дзейнасці ў вышэйшых навучальных установах, яе пераарыентацыю на забеспячэнне эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу, укараненне найноўшых інфармацыйных тэхналогій.

Прадугледжваецца далейшае развіццё сістэмы падрыхтоўкі навуковых і навукова-педагагічных кадраў: школа — ВНУ — магістратура — аспірантура — дактарантура, укараненне новых форм конкурснага фінансавання навукова-даследчай работы студэнтаў, аспірантаў і дактарантаў.

Развіццё сістэмы павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў прадугледжвае стварэнне сістэмы прафкансультавання і прафарыентацыі, пашырэнне дзейнасці, накіраванай на кадравую падтрымку інавацыйных працэсаў, зніжэнне беспрацоўя.

Структура і змест падрыхтоўкі педагагічных кадраў будуць прыведзены ў адпаведнасць з патрабаваннямі рэформы агульнаадукацыйнай школы. Для забеспячэння спецыялістамі-педагогамі прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай школы ў профільных ВНУ будуць створаны факультэты прафесійна-педагагічнай адукацыі, а таксама сістэма іх перападрыхтоўкі.

У рамках ***удасканалення сістэмы кіравання якасцю адукацыі*** прадугледжваецца стварэнне незалежнай атэстацыйнай службы, нацыянальнай сістэмы маніторынгу, развіцця і кантролю якасці адукацыі з удзелам усіх зацікаўленых асоб: дзяржаўных органаў, прадстаўнікоў заказчыкаў, педагагічнай грамадскасці, асоб, якія вучацца, грамадскіх аб'яднанняў. Распрацоўка сістэмы кіравання якасцю адукацыі на аснове стандартаў забяспечыць аператыўнае і адэкватнае рэагаванне сістэмы адукацыі на змяненне запытаў грамадства.

Намечана заканадаўча замацаваць прыярытэтнасць адукацыі, забяспечыць стварэнне фінансава-эканамічнага механізма для замацавання яго апераджальнага развіцця. Развіццё дзяржаўнай сістэмы адукацыі будзе падтрымлівацца паэтапным павелічэннем аб'ёмаў бюджэтнага фінансавання адукацыі, рэалізацыяй мер, накіраваных на сацыяльную падтрымку асоб, якія вучацца, рэальнае і значнае павышэнне заработнай платы ў сістэме адукацыі.

***"Прадугледжваецца ўжо ў 2001 г. забяспечыць павышэнне сярэднямесячнай заработнай платы і давядзенне яе ўзроўню ў жніўні ў цэлым па рэспубліцы ў эквіваленце, роўным 100 доларам ЗША, а для работнікаў, фінансуемых з бюджэту, да 30 снежня 2001 г. У 2005 г. прадугледжваецца давесці сярэднямесячную заработную плату работнікаў народнай гаспадаркі да ўзроўню, эквівалентнага 250 доларам ЗША"*** (з Асноўных палажэнняў Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001-2005 гады).

Развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы сістэмы адукацыі, улічваючы дэмаграфічны фактар, будзе ў бліжэйшыя пяць гадоў забяспечвацца за кошт уводу "незавяршонкі", капітальнага рамонту і рэканструкцыі існуючых магутнасцей, канцэнтрацыі намаганняў на абнаўленні вучэбна-лабараторнага і навуковага абсталявання.

Адначасова з бюджэтным фінансаваннем, якое застаецца асноўнай крыніцай развіцця адукацыі, будуць выкарыстоўвацца сродкі, атрыманыя за кошт ажыццяўлення платных паслуг, правядзення даследчых работ, выканання заказаў розных галін эканомікі, інавацыйнай дзейнасці, продажу інтэлектуальнай уласнасці і іншых відаў дзейнасці.

Прывядзенне матэрыяльнага, сацыяльнага, прававога становішча педагогаў у адпаведнасць з задачамі, ускладзенымі на гэтую катэгорыю работнікаў, будзе садзейнічаць павышэнню прэстыжу прафесіі педагога.

**Сістэма адукацыі Рэспублікі Беларусь у 2010 годзе**




*Выпускнікі абавязковай дзесяцігадовай школы (базавай) у ліцэйскія класы агульнаадукацыйных сярэдніх школ і ліцэі прымаюцца без абмежаванняў

***Рэалізацыя мерапрыемстваў па развіцці адукацыі дазволіць да 2010 года завяршыць фарміраванне цэласнай нацыянальнай сістэмы бесперапыннай адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

## З асноўных палажэнняў Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001-2005 гады

"Прадугледжваецца далейшае рэфармаванне ўсіх звенняў адукацыі, якое будзе накіравана на якаснае абнаўленне, развіццё інфармацыйных адукацыйных тэхналогій і методык навучання, вырашэнне праблемы пошуку дадатковых крыніц фінансавання і ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы галіны, пашырэнне рынку адукацыйных паслуг насельніцтву. Прадугледжваецца ажыццявіць пераход да поўнага ахопу дзяцей дашкольным выхаваннем з 5-гадовага ўзросту.

Асноўнай формай атрымання адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь застанецца бясплатная з захаваннем справядлівага і гарантаванага доступу да яе розных катэгорый моладзі. Пры гэтым павысіцца даступнасць адукацыі для дзяцей з малазабяспечаных сем'яў і сельскай мясцовасці шляхам выдзялення адрасных сацыяльных стыпендый. Для задавальнення запытаў насельніцтва ў атрыманні дадатковай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі прадугледжваецца захаванне платнага навучання за кошт сродкаў грамадзян і арганізацый. Штогадовы прыём моладзі на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы будзе складаць 57-58 тыс. чалавек, у сярэднія спецыяльныя — 47-48 тыс. чалавек.

Аб'ём і структура падрыхтоўкі спецыялістаў будуць фарміравацца на аснове развіцця дагаворных адносін, заявак рэспубліканскіх і мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання. Для сацыяльна значных галін прадугледжваецца развіццё кантрактнай формы падрыхтоўкі спецыялістаў. Рэгіяналізацыя вышэйшай адукацыі дазволіць забяспечыць задавальненне адукацыйных запытаў сельскай моладзі ў атрыманні вышэйшай адукацыі, вырашэнне задач сацыяльнага і эканамічнага развіцця рэгіёнаў. У сувязі з дэфіцытам урачэбных кадраў у сельскай мясцовасці і ў цэлым у паліклінічных установах краіны ў прагназуемым перыядзе, пачынаючы з 2001 г., будзе павялічаны на 20 працэнтаў прыём у вышэйшыя медыцынскія навучальныя ўстановы. Павялічыцца прыём на асобныя спецыяльнасці ў сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы і навучальныя ўстановы культуры. Прадугледжваецца пашырыць маштабы навучання ў беларускіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах замежных студэнтаў і аспірантаў.

У рэспубліцы будзе праводзіцца мэтанакіраваная работа па абнаўленні прафесійна-кваліфікацыйнай структуры падрыхтоўкі кадраў у прафесійна-тэхнічных вучылішчах з улікам рынку працы. Атрымаюць далейшае развіццё прафесійныя ліцэі і прафесійна-тэхнічныя каледжы. Падрыхтоўка высокакваліфікаваных рабочых кадраў будзе ажыццяўляцца ў цеснай сувязі з наймальнікамі і пастаянна ўдасканальвацца ў залежнасці ад патрабаванняў вытворчасці.

Вырашэнню задач, што стаяць перад адукацыяй, будуць садзейнічаць: падтрымка сістэмы адукацыі на аснове паэтапнага павелічэння прамога бюджэтнага фінансавання; стварэнне ўмоў для прыцягнення ў сферу адукацыі сродкаў з пазабюджэтных крыніц; павышэнне сацыяльнага статусу работнікаў адукацыі; фарміраванне і стварэнне дзяржаўнай сістэмы фінансавай дапамогі ў атрыманні адукацыі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Далейшае развіццё атрымае інтэграцыя сістэм адукацыі Беларусі і Расіі шляхам распрацоўкі адзіных адукацыйных стандартаў у адпаведнасці з сусветнымі ўзорамі і ўзгодненай дзяржаўнай палітыкі ў сферы адукацыі".

* * *

**4 студзеня 1996 года** — распараджэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі аб падрыхтоўцы і правядзенні рэформы агульнаадукацыйнай школы

**21 жніўня 1996 года** — зацвярджэнне Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь Канцэпцыі рэформы агульнаадукацыйнай школы (у мэтах выканання распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь)

**3-4 кастрычніка 1997 года** — І з'езд настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

**27 кастрычніка 1998 года** — зацвярджэнне Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь Канцэпцыі развіцця вышэйшай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь

**1 верасня 1998 года** — пачатак рэформы агульнаадукацыйнай школы, увядзенне падрыхтоўчага класа

**12 красавіка 1999 года** — зацвярджэнне Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь Асноўных напрамкаў развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі (у мэтах выканання даручэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь)

**4 мая 2001 года** — прыняцце ў першым чытанні праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь"



